Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

28 мая 1991 г. АЎТОРАК

№ 102 (21630)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

Мінск

### НА КАНІКУЛЫ—У ПОЛЬШЧУ

**БАБРУЙСК. (В. Зіноўскі). Да адміністрацыі Бабруйскага камбіната па вырабу скур звярнуўся святар рымска-каталіцкай гарадской абшчыны.**

Справа ў тым, што абшчына мае магчымасць накіраваць на аздараўленне ў суседнюю Польшчу групу дзяцей, але для гэтага на граніцы трэба выплаціць страхавы збор у валюце. Завадчане адгукнуліся на просьбу, і ўжо зараз фарміруецца група з 80 дзяцей, якія едуць лячыцца і адпачываць. Трыццаць з іх — выхаванцы дзіцячага дома.

Першага чэрвеня дзеці на двух «Ікарусах» накіруюцца ў адзін з пасёлкаў каля Познані. Тут на працягу месяца яны і будуць жыць у сем'ях прыхаджан.

### САМІ З ВУСАМІ

**ЛІДА. (Т. Чарнавус). Амаль год сюды прыязджаў з Мінска спецыяліст па мануальнай тэрапіі, які праводзіў платныя кансультацыі і лячэнне такіх хвароб, як адкладанне соляў, радыкуліт, пастаноўка дыскаў па сістэме Касьяна і іншыя.**

І гэта пры тым, што ў горадзе ёсць свае выдатныя спецыялісты. Яны, аднак, прыватнай практыкай не займаліся. І вось нядаўна на лідскім стадыёне «Абутнік» нарэшце былі арганізаваны лячэбныя сеансы па мануальнай тэрапіі. Жадаючым робіцца агульны і кропкавы масаж, ёсць басейн, сауна, зала трэнажораў.

### МІЛЬЁН ЗА КВАТЭРУ

**МАСКВА. (І А Н) 1 мільён 100 тысяч рублёў паступілі ў бюджэт Массавета ад продажу з аўкцыёну толькі адной кватэры. Яе плошча 111,8 кв. метра, а пачатковая цана была 164 тысячы рублёў.**

На пачатак чэрвеня ў сталіцы намечана правядзенне другога па ліку аўкцыёну. На продаж будуць прадстаўлены 10 кватэр у розных раёнах горада. У мерапрыемстве ўдзельнічаюць пакуль што толькі арганізацыі і прадаюцца не самі кватэры, а пасведчанні на права іх арэнды. Жадаючых прадаць жыллё ў белакаменнай зусім нямнога, а значыць, цэны будуць зноў высокімі.

Вырučаныя грошы пойдуць на падтрымку масавага жыллёвага будаўніцтва ў сталіцы.

### «ГЛЯДЗІ НА МЯНЕ, ЯК НА РОЎНЮ»

**Пад такім дэвізам у верасні ў Мінску адбудзецца фестываль мастацтваў інвалідаў, падрыхтоўка да якога пачалася ўжо. Фестываль будзе першым этапам агульнасаюзнай акцыі «Культура і інваліды», мэта якой—дапамагчы сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў, іх інтэграцыі ў грамадстве, уключэнню ў творчасць.**

Удзел у фестывалі змогуць прыняць інваліды—прафесіяналы і аматары самых розных відаў творчай дзейнасці: выканаўчага мастацтва, жывапісу, фатаграфіі, літаратурнай дзейнасці і г. д. Шырока будзе прадстаўлена творчасць дзяцей-інвалідаў.

У час фестывалю на ВДНГ БССР будуць наладжвацца выстаўкі работ інвалідаў, адбудуцца творчыя сустрэчы з дзеячамі культуры, літаратарамі. Тэатры горада запросяць удзельнікаў фестывалю на спектаклі і канцэрты, для іх будуць арганізаваны сустрэчы са спецыялістамі нетрадыцыйнага лячэння.

Па выніках мерапрыемстваў фестывалю плануецца арганізаваць творчыя лабараторыі і студыі, вызначыць найбольш адораную моладзь для далейшага навучання ў вучэбных установах, арганізаваць гастролі і перасовачныя выстаўкі ўдзельнікаў фестывалю па Беларусі і за яе межамі.

### КАНВЕРСІЯ

Гэтыя звычайныя, на першы погляд, фрэза, шасцерні, утулкі зроблены з незвычайнага матэрыялу — вугляроднага валакна, выпуск якога асвоены на светлагорскім ВА «Хімвалакно». Па многіх параметрах дэталі пераўзыходзяць металічныя: яны лягчэйшыя, не баяцца карозіі, маюць высокую ўстойлівасць да хімічнага ўздзеяння.

Больш як 20 відаў унікальнай прадукцыі можа прапанаваць сёння завод віскозных і вугляродных валокнаў, што ўваходзіць у аб'яднанне. Раней яго прадукцыя, прызначаная для выкарыстання ў космасе, пад вадой, у высокіх тэмпературах, «працавала» на абарону. Канверсія дае магчымасць прадпрыемству наладзіць выпуск вырабаў для народнай гаспадаркі.

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА. (БЕЛТА).**

### ЗЛОДЗЕЯЎ ЧАКАЕ РАБОТА

**ПІНСК. (С. Шапіра). Вось-вось у Пінск паступіць 12 тысяч кустоў руж з Рыгі, якія ўпрыгожаць цэнтральныя вуліцы і плошчы горада.**

Але чым бліжэй гэты радасны момант, тым больш змрочным робіцца твар майстра па азеляненню горада Тамары Бурачэлскай. Яна ўжо цяпер прыкідвае, колькі прыгажунь застанецца да будучай вясны.

Справа ў тым, што за два мінулыя гады на плошчах, вуліцах Пінска было ўжо высаджана 28 тысяч руж. Сёння ж іх засталося толькі 8 тысяч— астатнія былі ўкрадзены. Кветкавыя зладзеі не толькі ўкралі прыгажосць, але і нанеслі ўрон гарадской казне на 80 тысяч рублёў.

### ЛЕПШ НЕ АДПАЧЫВАЦЬ?

**ЗАПАРОЖСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (ІАН). Мясцовыя газеты не шкадуюць месца для рэкламы, якая запрашае правесці адпачынак на ўзбярэжжы Азоўскага мора.**

А Саветы народных дэпутатаў пры гэтым спрабуюць атрымаць максімум выгады: яны ўвялі шэраг абмежаванняў, якія ператвараюць адпачынак людзей у працэс рэгулярнага папаўнення мясцовых бюджэтаў. Так, за ўезд на прыватным аўтамабілі ў горад Бярдзянск трэба заплаціць да 25 рублёў, а тыя, хто захоча пад'ехаць бліжэй да пляжаў, дадаткова раскашэляцца яшчэ на 15 рублёў. Калі ж улічыць, што ў прадуктовых магазінах атаварыцца практычна немагчыма, а на базарах цэны «кусаюцца», то адпачынак уляціць у капеечку.

### КАМФОРТ ДЛЯ ЧАЦВЕРАНОГІХ

**САЛІГОРСК. (ІАН). Уладальнікаў сабак горада Салігорска больш не хвалюе праблема, якая звычайна ўзнікала пры паездках у адпачынак ці ў камандзіроўку: што рабіць з сабакам?**

Гарадскі клуб аматараў сабак «Бары» адкрыў спецыяльную гасцініцу, дзе гаспадары могуць спакойна пакінуць сваіх выхаванцаў на час паездак. Догляд і ўвага кожнаму пастаяльцу гарантаваныя.

# Аб выніках работы народнай гаспадаркі Беларускай ССР у студзені—красавіку 1991 года

## Паведамленне Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па статыстыцы і аналізу

Дзяржкамстатам БССР падведзены вынікі работы за мінулы перыяд бягучага года. Яны сведчаць аб тым, што становішча ў эканоміцы рэспублікі застаецца складаным. З-за парушэння гаспадарчых сувязей, збояў з пастаўкамі сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых вырабаў, паліўна-энергетычных рэсурсаў з іншых рэгіёнаў краіны працягваецца спад грамадскай вытворчасці. **Нацыянальны даход** зменшыўся ў параўнанні са студзенем—красавікам мінулага года на 4 працэнты, у тым ліку ў прамысловасці—на 3 працэнты, сельскай гаспадарцы—на 9, будаўніцтве — на 3 працэнты.

**Прадукцыйнасць грамадскай працы** за чатыры месяцы зменшылася на 2 працэнты.

З-за забастовак недададзена прадукцыі на 120 мільёнаў рублёў, у тым ліку ў г. Мінску—амаль на 80 мільёнаў рублёў.

Пры змяншэнні нацыянальнага даходу грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся на 34 працэнты і склалі 10,3 мільярда рублёў. У красавіку яны ўзраслі ў 1,5 раза. Сума сродкаў, накіроўваемых на спажыванне, у разліку на аднаго работніка, склала 319 рублёў у месяц, або на 24 працэнты больш, чым у студзені—красавіку мінулага года.

Нягледзячы на прымаемыя меры па забеспячэнню прадпрыемстваў сыравінай, матэрыяламі і камплектуючымі вырабамі ў радзе галін прамысловасці ўзнікла складанае становішча з вытворчасцю важнейшых відаў прадукцыі. **Агульны аб'ём прамысловай вытворчасці** за чатыры месяцы бягучага года да ўзроўню мінулага года знізіўся на 774 мільёны рублёў, або на 3 працэнты, у тым ліку ў красавіку — на 5,6 працэнта.

З 169 важнейшых відаў прадукцыі зніжэнне вытворчасці дапушчана па 112.

У красавіку бягучага года ў паліўнай прамысловасці аб'ём вытворчасці скараціўся на 1,1 працэнта, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці — на 10,1 працэнта.

Выпуск шын для грузавых і легкавых аўтамабіляў і сельскагаспадарчых машын скараціўся на 15 працэнтаў. Аб'яднаннем «Беларуськалій» вытворчасць мінеральных угнаенняў у красавіку склала 132,7 тысячы тон супраць 431,2 тысячы тон у красавіку мінулага года. Страты рабочага часу ў выніку забастовак на гэтым аб'яднанні склалі 32,7 тысячы чалавека-дзён.

Навапалацкім вытворчым аб'яднаннем «Палімір» скарочана вытворчасць хімічных валокнаў і ніцей на 2 тысячы тон, або на 30 працэнтаў, светлагорскім вытворчым аб'яднаннем «Хімвалакно» — на 734 тоны, або на 13 працэнтаў.

Машынабудаўнічымі прадпрыемствамі ў выніку нерытмічнага паступлення камплектуючых дэталей, адсутнасці металу, недахвату рабочай сілы за чатыры месяцы скарочаны выпуск электрарухавікоў на 15 працэнтаў, ліфтаў пасажырскіх — на 13, грузавых аўтамабіляў—на 14, трактараў — на 6, сельскагаспадарчых машын — на 9, самаходных кормаўборачных машын—на 16, машын для ўнясення ў глебу арганічных угнаенняў—на 11 працэнтаў.

У выніку зніжэння вытворчасці прадукцыі ў студзені—красавіку спажыўцам недапастаўлена яе магілёўскім заводам «Электрарухавік» на 660 тысяч рублёў, Лунінецкім заводам па вытворчасці электрарухавікоў для сельскай гаспадаркі — на 3,1 мільёна, Мінскім трактарным заводам—на 2,2 мільёна, Мінскім аўтамабільным заводам—на 1,6 мільёна, Гомельскім заводам самаходных камбайнаў—на 7 мільёнаў рублёў.

За чатыры месяцы 1991 года вытворчасць дзелавой драўніны скарацілася на 164 тысячы кубічных метраў, або на 9 працэнтаў, у тым ліку ў красавіку — на 71 тысячу кубічных метраў, або на 18 працэнтаў. У красавіку зніжаны выпуск піламатэрыялаў на 8 працэнтаў, драўнінна-стружкавых пліт — на адзін працэнт. Пастаўка ў рэспубліку піламатэрыялаў не выканана.

Вытворчым аб'яднаннем «Крычаўцэментнашыфер» у красавіку скарочаны выпуск цэменту на 4 тысячы тон, або на 4 працэнты, Асіповіцкім кардонна-рубероiдавым заводам — мяккіх дахавых матэрыялаў на 351 тысячу квадратных метраў, або на 3 працэнты.

Вытворчасць цэглы ў красавіку ў параўнанні з красавікам мінулага года скарацілася на 4 мільёны штук, або на 3 працэнты.

У выніку зніжэння аб'ёмаў прамысловай вытворчасці прадпрыемствы рэспублікі недапаставілі спажыўцам у студзені — красавіку прадукцыі на 143,4 мільёна рублёў, у тым ліку прадпрыемствы саюзных міністэрстваў — на 114,1 мільёна рублёў, міністэрстваў і ведамстваў БССР—на 29,3 мільёна рублёў.

За чатыры месяцы бягучага года выпуск тавараў народнага спажывання склаў 13,5 мільярда рублёў, што на 2,7 працэнта больш, чым у мінулым годзе. У красавіку вытворчасць тавараў скарацілася на 4,8 працэнта.

У студзені—красавіку зніжана вытворчасць тканін усіх відаў на 6,3 працэнта.

Выпуск швейных вырабаў у рознічных цэнах за чатыры месяцы павялічыўся да ўзроўню мінулага года на 75 мільёнаў рублёў, або на 9 працэнтаў. Па многіх відах швейных вырабаў адбылося скарачэнне іх выпуску, у тым ліку шарсцяных паліто—на 17 тысяч (2,6 працэнта), касцюмаў дзіцячых — на 18 тысяч (4,5 працэнта), касцюмаў мужчынскіх—на 18 тысяч (8,9 працэнта), сукенак — на 47 тысяч (3,4 працэнта), штаноў—на 67 тысяч (6,7 працэнта), куртак—на 9 тысяч (2 працэнты), сарочак верхніх — на 220 тысяч штук (8,9 працэнта).

Вытворчасць панчошна-шкарпэткавых вырабаў у студзені—красавіку скарацілася на 8,7 мільёна пар (на 14 працэнтаў), у тым ліку Брэсцкім панчошным камбінатам—на 4,9 мільёна пар (23 працэнты), віцебскай панчошна - трыкатажнай фабрыкай «КІМ»—на 3,7 мільёна пар (12 працэнтаў), гомельскай панчошна - трыкатажнай фабрыкай «8 Сакавіка» — на 152 тысячы пар (1,5 працэнта).

Выпуск трыкатажных вырабаў павялічыўся ў студзені—красавіку на 2,7 працэнта, у красавіку—на 6,5 працэнта.

Вытворчасць абутку за чатыры месяцы зніжана на 332 тысячы пар, або на 2 працэнты, у тым ліку галаўным прадпрыемствам вытворчага аб'яднання «Прамень»—на 358 тысяч пар, або на 8 працэнтаў, у красавіку—на 3 тысячы пар, або на 0,3 працэнта, гомельскім вытворчым аб'яднаннем «Праца» — адпаведна на 228 тысяч пар, або на 24 працэнты, і на 33 тысячы пар, або на 14 працэнтаў.

Вытворчасць нехарчовых тавараў (без тавараў лёгкай прамысловасці) узрасла ў студзені—красавіку на 193 мільёны рублёў, або на 5,8 працэнта, а ў красавіку знізілася на 8,6 працэнта. Павялічылася вытворчасць бытавых халадзільнікаў на 7 тысяч штук (3 працэнты), гадзіннікаў — на 445 тысяч штук (10 працэнтаў), пральных машын—на 6 тысяч штук (у 1,6 раза), магнітафонаў—на 30 тысяч штук (у 1,6 раза), бытавых электрамясарубак—на 15 тысяч штук (у 2,5 раза), мэблі — на 20,5 мільёна рублёў (6,5 працэнта), фотаапаратаў—на 16 тысяч штук (5 працэнтаў), шпалер — на 3 мільёны ўмоўных кускоў (8 працэнтаў).

Скарацілася вытворчасць тэлевізараў каляровага адлюстравання на 35 тысяч штук (31 працэнт), матацыклаў—на 3,4 тысячы штук (20 працэнтаў), веласіпедаў—на 12 тысяч штук (16 працэнтаў), сшыткаў школьных—на 3,5 мільёна штук (7 працэнтаў),

За чатыры месяцы аб'ём харчовых тавараў скараціўся на 73 мільёны рублёў, або на 1,5 працэнта. У красавіку ў параўнанні з красавіком 1990 года зменшылася вытворчасць маргарынавай прадукцыі на 1,5 тысячы тон (15 працэнтаў), кандытарскіх вырабаў—на 2 тысячы тон (12 працэнтаў), сыру тлустага — на 757 тон (15 працэнтаў), масла—на 1,4 тысячы тон (10 працэнтаў), цукру-пяску з імпартнага сырцу—на 11 тысяч тон (25 працэнтаў), маянэзу—на 526 тон (32 працэнты), папярос і цыгарэт—на 155 мільёнаў штук (9 працэнтаў).

Становішча на спажывецкім рынку і забеспячэнне насельніцтва таварамі застаюцца нездавальняючымі. Калі за студзень—сакавік бягучага года **аб'ём рознічнага тавараабароту** ў супастаўных цэнах узрос на 10,7 працэнта, то ў красавіку ён знізіўся на 27 працэнтаў. У фактычных цэнах, у сувязі з іх рэформай, аб'ём яго павялічыўся за чатыры месяцы на 32 працэнты, за красавік—на 37 працэнтаў.

У студзені—красавіку бягучага года павялічыліся пастаўкі ў гандаль каўбасных вырабаў на 23 працэнты, сыру, мясных кансерваў—на 10—12 працэнтаў, цукру, маргарынавай прадукцыі, макаронных вырабаў—на 1—5 працэнтаў.

Разам з тым, скарацілася паступленне ў гандаль чаю, кандытарскіх вырабаў, рыбы, селядцоў, рыбных і плодаагароднінных кансерваў. Тут адбілася змяншэнне іх паставак з іншых рэспублік і па імпарту.

У красавіку бягучага года, у сувязі з павышэннем цэн і змяншэннем заявак гандлю, скарацілася рэалізацыя насельніцтву харчовых тавараў амаль усіх відаў. У той жа час іх запасы ў аптовым гандлі і прамысловасці ўзрастаюць. На 1 мая ў параўнанні з 1 красавіка бягучага года запасы масла і каўбасных вырабаў павялічыліся ў 2,5 раза, кандытарскіх вырабаў—у 1,7 раза, мяса і птушкі — на 27 працэнтаў, малочных кансерваў — на 16 працэнтаў, рыбы і сыру—на 7—8 працэнтаў.

Не палепшылася забеспячэнне насельніцтва нехарчовымі таварамі. За чатыры месяцы бягучага года адзення і бялізны, трыкатажных вырабаў і шаўковых тканін прададзена на 9—18 працэнтаў менш, чым за гэты перыяд мінулага года, панчошна-шкарпэткавых вырабаў—на 25 працэнтаў, бавоўняных і шарсцяных тканін—у 2 разы, тытунёвых вырабаў за гэты перыяд рэалізавана на 19 працэнтаў менш, а ў красавіку — на 42 працэнты.

З тавараў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння ў першым квартале бягучага года ў параўнанні з першым кварталам 1990 года продаж халадзільнікаў, піяніна і раяляў знізіўся на 4—5 працэнтаў, веласіпедаў і мапедаў, электрапрасаў—на 12—13, матацыклаў, легкавых аўтамабіляў, пральных машын—на 22—23, электрапыласосаў—на 40 працэнтаў. Узрос за гэты перыяд продаж гадзіннікаў і магнітафонаў на 16—18 працэнтаў, радыёпрыёмных прыбораў, швейных машын — на 40—45, фотаапаратаў і тэлевізараў каляровага адлюстравання—на 60—65 працэнтаў.

Скараціўся на 24 працэнты продаж будаўнічых матэрыялаў. Калі за студзень—сакавік 1990 года было прададзена 9,4 тысячы драўляных дамоў заводскага вырабу, то ў студзені — сакавіку бягучага года—4,5 тысячы, піламатэрыялаў—38 і 19 тысяч кубічных метраў, камплектаў драўляных дэталей дамоў—10,1 і 5,4 тысячы квадратных метраў, фанеры кленай—1,6 і 0,9 тысячы кубічных метраў, дзелавой драўніны — 12 і 7 тысяч кубічных метраў. Продаж мяккіх дахавых матэрыялаў, шыферу зменшыўся на 31—37 працэнтаў, лінолеуму—у 2,5 раза, аконнага шкла, цэменту — на 14 — 19 працэнтаў. Рэзка зменшылася рэалізацыя аконных і дзвярных блокаў (у 6 разоў), садовых домікаў (у 4 разы).

Не паляпшаецца становішча і ў паслугах насельніцтву. Атрыманы за чатыры месяцы прырост рэалізацыі **бытавых паслуг** у фактычных цэнах на 25 працэнтаў забяспечаны за кошт павышэння цэн і тарыфаў. У супастаўных цэнах іх аб'ём скараціўся на 13 працэнтаў, а па паслугах хімічнай чысткі, цырульняў, пральняў—на 21—28 працэнтаў, па пашыву абутку—на 13 і адзення—на 3 працэнты.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Раз— праграма, два— праграма...

У пятніцу ў парламенце працягвалася абмеркаванне праграмы стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва, якую прадставіў на разгляд Савет Міністраў БССР.

Але спачатку такая навіна, якую ў неафіцыяльным парадку пачуў у сценах Дома ўрада, а потым на плошчы перад ім ад аднаго з прадстаўнікоў апазіцыі: яна вырашыла сфарміраваць (ці сфарміравала ўжо?) свой, ценявы Кабінет міністраў. Што ж, цяпер, трэба думаць, ад гэтага праклятага крызісу застануцца рожкі ды ножкі. Два кабінеты ўжо абавязкова яго праглынуць...

Але каб жа гэта было так проста! Ужо сам напал страсцей, які панаваў пры абмеркаванні прадстаўленай праграмы, выкладкі, факты, лічбы, якімі карысталіся ў выступленнях народныя дэпутаты, сведчаць: лёгкіх шляхоў не будзе. Больш таго, нас, напэўна, чакаюць яшчэ большыя цяжкасці, мы яшчэ прыйдзем да піка эканамічнага крызісу. Самае галоўнае: нам пакуль што не хапае нацыянальнай згоды, мы яшчэ не заўсёды ўмеем, або ўвогуле не жадаем слухаць адзін аднаго.

Што датычыць канкрэтна праграмы, варта адзначыць, што так ці іначай яна не задавальняла практычна ўсіх выступаўшых, незалежна ад таго, да якой групы яны адносяцца. А вось адносна далейшых дзеянняў можна было б іх падзяліць на тры групы: на тых, хто за тое, каб праграму «падпрацаваць»; хто за яе карэнную перапрацоўку, наданне ёй ярка выражанай рыначнай накіраванасці, і тых, хто лічыць: цяперашні ўрад нічога талковага зрабіць не можа, г. зн. трэба яго мяняць, а разам з ім, на аснове новых выбараў, і сам Вярхоўны Савет... Са свайго боку, адзначу, што, напэўна, трэба прытрымлівацца добра вядомага правіла—шукаць ісціну пасярэдзіне і ўсё ж прымусіць цяперашні ўрад адысці ад адміністрацыйна-камандных прынцыпаў, якія праглядваюць у праграме, пабудаваць яе на сапраўды рыначнай аснове. Думаецца, з той моцнай, жорсткай, нават залішне жорсткай праборкі, якую атрымалі ўрад і асабіста Старшыня Саўміна В. Кебіч, яны зробяць адпаведныя вывады. (Дарэчы, гэта праграма адпраўлена ў СМ БССР на дапрацоўку, а на сесіі пачалося абмеркаванне пытанняў раздзяржаўлення і прыватызацыі).

Аднак слова самім народным дэпутатам.

**А. Камай:** Па праграме. Лічу, што ўрад над ёю папрацаваў вельмі сур'ёзна, і я не магу згадзіцца з пунктам гледжання тых дэпутатаў, якія нічога канструктыўнага ў ёй не бачаць, не ўносячы нічога, толькі адхіляюць. Зразумела, у ёй нямала вузкіх месц. Але ж самі дэпутаты і павінны дапоўніць яе канкрэтнымі ідэямі, прапановамі. Яе трэба прыняць к канцу сесіі, вядома, з улікам усіх заўваг.

Праграма павінна быць менавіта дзяржаўная, а не ўрадавая, як жадаюць некаторыя. Тут прынцыповае пытанне: гэта значыць, каб мы ўсе, каму даверыў народ быць у дзяржаўных органах, узялі на сябе адказнасць за яе выкананне. Адваротнае меркаванне—спроба пазбегнуць адказнасці, а таксама кансалідацыі ў рэалізацыі сацыяльна - эканамічных задач, якія сфармуляваны і якія трэба вырашаць. Між іншым, з выступленняў прадстаўнікоў апазіцыі вынікае, што яны выкарыстоўваюць трыбуну для змены дзяржаўных структур.

Заўважу наконт Лукашэнкі, якога ведаю як дзелавога чалавека (менавіта ад А. Лукашэнкі ў асноўным і дасталося В. Кебічу — **Аўт.**). Вельмі адмоўна стаўлюся да яго выпаду супраць Кебіча.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# Нам ёсць што адраджаць

## Такая агульная думка, да якой прыйшлі на сваёй сустрэчы ў Мінску беларусісты свету

Як мы паведамлялі ўжо сваім чытачам, 25—27 мая ў Мінску праходзіў Міжнародны кангрэс беларусістаў — вялікае спатканне прадстаўнікоў многіх краін і нацыянальнасцей, паяднаных любоўю да Беларусі. Гэта мерапрыемства ладзілі сумесна Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Акадэмія навук, Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў рэспублікі, іншыя зацікаўленыя арганізацыі.

Са словам прывітання да ўдзельнікаў кангрэсу звярнуліся першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч, прэзідэнт АН БССР Уладзімір Платонаў, міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка, пісьменнікі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч. Яўген Лецка вітаў гасцей ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», а Рыгор Барадулін — ад Беларускага ПЭН-цэнтра. Пратаіерэй Георгій Латушка перадаў добрыя пажаданні ад мітрапаліта Філарэта, а таксама яго падарунак — першыя экземпляры новага перакладу Бібліі на беларускую мову.

С. Шушкевіч, у прыватнасці, прызнаўся, што лічыць кангрэс падзеяй, аб якой ён не мог марыць яшчэ гады два—тры назад, таму што не ўяўляў, як паважаюць у свеце нашу зняважаную мову, забруджаную культуру, скалечаную гісторыю. Аб мужнасці тых, для каго ўся гэта «нявыйгрышная» тэматыка з'яўляецца прадметам мастакоўскай і даследчыцкай цікавасці, гаварыў Н. Гілевіч.

Але, мяркуючы па ўсім, свет з усё большай увагай пачынае прыглядацца да народа, які пастаўлены лёсам і часам у экстрэмальныя ўмовы, а менавіта — перад праблемай так распарадзіцца сваім жыццёвым патэнцыялам, каб адолець разбуральную сілу Чарнобыля і не ўпусціць з рук яшчэ адзін шанц стваральнага нацыянальнага адраджэння.

Можна сказаць, што ўвесь кангрэс — гэта і ёсць спроба своеасаблівай «інтэлектуальна-духоўнай» талакою падняць, асэнсаваць ідэю і філасофію нацыянальнага адраджэння. Гэтая тэма радніла мноства такіх розных і цікавых выступленняў, прысвечаных праблемам беларускай мовы, культуры, гісторыі, рэлігіі, этнаграфіі, фальклору... Варта прыгадаць хаця б выступленні гасцей у першы дзень: доктар гістарычных навук з Масквы Валянцін Сядоў выклаў свае меркаванні пра балцкі субстрат у этнагенезе беларусаў; доктар філалогіі з Берліна Соня Хайль у сваім паведамленні гаварыла аб фарміраванні сінтаксічнай нормы беларускай мовы; кандыдат філалагічных навук, перакладчыца з Літвы Альма Лапінскене расказала пра сваю працу над творамі М. Багдановіча; загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі засяродзіў увагу на сучаснай польскай беларусістыцы...

Традыцыйна прыцягальным было выступленне Уладзіміра Конана, які зрабіў гісторыка-тыпалагічны аналіз паняцця «Беларускае нацыянальнае адраджэнне». Думаю, у чытачоў будзе іншая магчымасць больш падрабязна пазнаёміцца з канцэпцыяй гэтага вядомага вучонага, доктара філасофскіх навук. Адзначу толькі, што, на яго думку, беларусы падышлі да свайго **пятага** адраджэння. (А да гэтага, калі сцісла казаць, было першае — хрысціянскае адраджэнне XI—XII ст. ст., другое — скарынаўскае XV — XVI ст. ст., трэцяе — шляхецкае XIX ст., потым — сялянскае рэвалюцыйнае XX ст. і — нарэшце — сучаснае...).

У сучаснага адраджэння ёсць адметная рыса. Яно адбываецца не толькі на прарадзіме нацыі, але і ў перавезеным духоўным асяродку — на эміграцыі. Не заўсёды па-сваяцку цёплымі і бяскрыўднымі былі адносіны дзяржавы і яе выгнаннікаў, часта не па сваёй волі «адарваных лісткоў». Беззумоўна, і сам па сабе падобны кангрэс быў бы немагчымым без павароту нашай палітыкі ад шальмавання замежных суродзічаў да прызнання перавагі агульначалавечых каштоўнасцей. Бадай, упершыню на навуковым кангрэсе ў Мінску размова пра нашу эміграцыю прайшла з удзелам «жывой эміграцыі». Пра круглы стол «Беларуская дыяспара ў свеце», яго ўдзельнікаў мы мяркуем расказаць у наступных нумарах. А цяпер — хіба пра адзін варты ўвагі палемічны момант.

У размовах-дыскусіях сутыкаліся розныя меркаванні наконт таго, дзе ж асноўнае апірышча адраджэння Беларусі, дзе той «банк», у якім больш надзейна захаваецца наш генафонд — за мяжой ці на радзіме? Што нам пад сілу — абудзіць мільёны «тутэйшых» ці працаваць з тысячай «свядомых, але нетутэйшых»? Магчыма, яшчэ шэсць гадоў таму гэта пытанне было б зусім бясспрэчным, але цяпер нам цяжэй загадваць пра сваю непрадказальную гісторыю. Як бы там ні было — усё роўна, два роднасныя беларускія асяродкі знаходзілі і будуць знаходзіць сілу і падтрымку адзін у адным. **Яны** — завітаўшы ў свой **Менск** і пераканаўшыся, што стаіць яшчэ той шпіталь, дзе маці нарадзіла на свет... **Мы** — атрымаўшы з іх рук слуцкі пас, пачуўшы з іх вуснаў такую незвычайную родную мову...

Увогуле, шкада, што шырокія масы нашага насельніцтва яшчэ не ўведалі, які гэта цудадзейны лекавы і гіпнатычны сродак — родная мова ў замежных вуснах! Да гонару нашых гасцей: амаль усе яны віталіся з залай: «Добры дзень, спадарыні і спадары!», чыталі паведамленні па-беларуску. (Прыгадаю прафесара Томаса Бэрда з Нью-Йорка, бібліятэкара Моніку Цуліг са Швейцарыі, перакладчыцу з Балгарыі Венету Козараву-Геаргіеву...).

Асобны феномен — старшыня Англа-Беларускага таварыства з Лондана — Джым Дзінглі. Не так часта знаёмы нам прыклад высокай прафесійнай дасканаласці, калі беларускую можна вывучыць толькі за тое, што ёю пісаў Караткевіч... Увогуле, і сам абаяльны англічанін з яго індывідуальным «братэрства» ужо, здаецца, гаворыць, нібы адзін з караткевічавых герояў, у якога «the» гучала ўсё роўна як «дзе».

Так, да навуковага плёну кангрэсу трэба дадаць і эмацыянальны. Колькі «сяброў па перапісцы», па кнігах і газетах, упершыню пабачыліся ў твар, пацiснулі руку адзін аднаму! Ян Чыквін, дацэнт Варшаўскага універсітэта, вядомы яшчэ як кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Белавежа», знайшоў гэтаму імпульсу ўласнабеларускае вызначэнне: **завіраванне.** Пад гэтым я маю на ўвазе, працягваў госць з Варшавы, што кангрэс, яго выступленні — асабліва ж запаў у сэрца яркі пісьменніцкі зварот Васіля Быкава — здолелі стварыць тое духоўнае прыцяжэнне да беларускасці, якое ўжо цяжка пераадолець.

**А. ЦІХАНОВІЧ.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

